


# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №8 (42)
ТРАВЕНЬ 2016 ГОДА**


**КАЛОНКА РЭДАКТАРА**

## ЦІ ПАТРЭБНАЯ ТУТЭЙШАМУ НАСЕЛЬНІЦТВУ БЕЛАРУСЬ ЯК ЗЯМЛЯ АБЯЦАНАЯ?

*Абяцаная зямля з-за няверства габрэяў чакала іх сорак год. Колькі год чакае нас наша абяцаная зямля? Дваццаць два? Сто? Чатырыста пяцьдзесят? Можа досыць ужо блукаць? Можа час ужо пакаяцца ў рабскай сьвядомасьці і ісьці да абяцанай зямлі? Мяркую, надыходзіць час выбірацца, час ісьці на свабоду.*

***Зьміцер Дашкевіч***

Казаць пра дрэнныя якасьці пэўнага народу – справа няўдзячная ў розных сэнсах. Асабліва прыкра казаць пра тое, калі такая характарыстыка тычыцца таго народу, да якога ты ў дадатак яшчэ і належаш. Прыкра ня толькі тое ўсведамляць, але стакроць прыкра разумець, што гэты народ пра тое не задумваецца ды нешта зьмяняць у сваім жыцьці не збіраецца.

Ну, вось у хуткім часе «грошы замяняць», «лета нарэшце прыйшло», «трускалкі вось-вось саспеюць», «Лукашэнка толькі дрэнны», «лепей бы ўжо нас Пуцін забраў», «піндосы праклятыя Ўкраіну захапілі» - вось ён найпрасцейшы набор штампаў народнага разважання пра рэчаіснасць.

Не, канечне, у залежнасьці ад стану асобы ён можа быць крыху шырэйшым, крыху глыбейшым, крыху разумнейшым... Але колькі людцаў знойдуцца, у якіх гэты набор будзе ўтрымліваць гэткія каштоўнасці, як свабода, правы чалавека, госпад, зямля абяцаная...

Што тычыцца мяне, у сёньняшнім соцыя-культурным кантэксце словазлучэньне «зямля абяцаная» найперш успрымаецца, як сінонім вольнай, незалежнай, самадастатковай, богам падараванай беларусам краіны Беларусі. Краіны, у якой, дзякуючы панаванню беларускага нацыяналізму, кожны яе грамадзянін зможа вольна рэалізаваць закладзены ў ім патэнцыял і здольнасьці.

Але ж тое – перспектыва няблізкая, бо няма тут ні свайго Майсея, ні зямлі Ханаан. Не, калі не шукаць сто адсоткавай аналогіі, то і тое, і другое ёсьць, але не ўсьведамляюцца яны тутэйшым насельцтвам, як нешта калі не сьвятое, то хаця б асьвечанае ці важнае. І ў гэтым уся закавыка.

Ва ўпор ня бачаць яны ані Міколы Статкевіча, ані Паўла Севярынца, ані Уладзімера Някляева, ні таго ж Андрэя Саннікава ў ролі Майсея. Не бачаць яны і ўласна Беларусі, як найвялікшай каштоўнасьці, якую ані Расеі не аддаць, ані да Польшчы не далучыць. «Піндосы вінаватыя ў пагаршэнні эканамічнай сітуацыі ў краіне», - кажа адзін маладзён з Віцебску пры апытанні на вуліцах гораду.

Абалваненыя расейскай прапагандай людзі губляюць усялякія арэентыры. Несвабода нараджае раба, свабода – вольнага грамадзяніна. Здавалася б, так проста. Але ж – не. Прастата тая ўяўная. За сто год не пабачылі і не пачулі яны ні Янку Купалу, ні Якуба Коласа, які да той абяцанай «новай зямлі» так клікаў, што толькі глухі, сьляпы ды нямы адначасна чалавек ня здолеў бы пачуць таго закліку. Не пачулі.

Зайздрошчу ўкраінцам – братам нашым найбліжэйшым і па мове, і па гісторыі, і па лёсу...

Вось вярнулася іхняя нязломная Надзея Саўчанка з расейскага палону – і яна ўжо верагодны кандыдат на пасаду прэзыдэнта на наступных выбарах. Бадай так ацаніў яе годнасць народ.

Чаму ўкраінцы палічылі яе годнай гэтай пасады, а беларусы Міколу Статкевіча ці Зьміцера Дашкевіча. Які прайшлі бадай тым самым шляхпм, што і яна – не?

Мо таму, што годныя абіраюць годных, высакародныя – высакародных, свабодныя – сабодных, а ачмураныя і падманутыя – абіраюць калгасны канцлагер. І ня мае значэньня, якія персаналіі гэты канцлагер ачольваюць. Падасца ім заўтра, што Лукашэнка – дрэнны, а Пуцін – душачка, - і здадуць яны Беларусь вялікаму брату без аднага стрэлу, памяняюць канцлагер маленькі і дагледжаны на вялікі, агароджаны састарэлымі ядзернымі дубінкамі.

А мо вы не пагаджаецеся з такімі маімі высновамі?

**Рэдактар**

**ГРАМАДЗКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ**

## СУСТРЭЧА З ГРАМАДЗКІМІ АКТЫВІСТАМІ

**24 траўня сябры камісіі па ўшанаваньні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяраў войнаў, створанай пры Віцебскім райвыканкаме, сустрэліся з прадстаўнікамі грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы».**

Сустрэча адбылася ў актавай зале Мазалаўскага сельскага савету, дзе старшыня камісіі Ксенія Карабач і сакратарка камісіі Ірына Тарасава далі вусны адказ на пісьмовы зварот сяброў ініцыятывы.

Распачала сустрэчу старшыня камісіі, якая зачытала адказ дырэктара інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук адносна запыту, дасланага камісіяй. У адказе сьцьвярджаецца, што інстытут не валодае дакумэнтамі адносна пахаваньняў людзей паблізу вёсак Хайсы і Дрыкольле падчас палітычных рэпрэсіяў або за часамі вайны. Акрамя таго ў адказе ўтрымліваецца і яшчэ адзін важны момант: у адрозьненьні ад высноваў археоляга 52-га пошукавага батальёну Вадзіма Таміліна, які адносіць даследаванае ім пахаваньне да часоў вайны, дырэктар інстытуту гісторыі сьцьвярджае, што «... па наяўных матэрыялах зрабіць дакладнае заключэньне адносна прыналежнасьці пахаваньня да канкрэтнага часавага пэрыяду не ўяўляецца магчымым».

Абапіраючыся на атрыманы адказ, кіраўніца раённай камісіі зазначыла, што «...няма аргумэнтаў ні на вашу, ні на нашу карысьць». Падлавіўшы Ксенію Карабач на гэтай фрэйдаўскай абмоўцы, грамадзкі актывіст Леанід Аляхновіч запытаў яе: «А ў чым тут ваша карысьць?» Але адказу на зададзенае пытаньне ён так і не дачакаўся.

Кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў паінфармаў Ксенію Карабач аб праведзенай за апошні час працы, аб новай інфармацыі, атрыманай з розных крыніцаў, і выказаў чарговыя аргумэнты на карысьць таго, што ў лесе ля Хайсоў ляжаць ахвяры сталінскага рэжыму... Гэтаксама ён папрасіў паведаміць яе пра цяперашняе месца знаходжаньня парэштак, паднятых 52-м пошукавым батальёнам. Як аказалася, усе парэшткі да высьвятленьня ўсіх акалічнасьцяў справы будуць захоўвацца на тэрыторыі Мазалаўскага сельскага савету. Праўда, канкрэтнае месца іх захоўваньня, зь невядомых прычынаў, так і не было названае.

Уладзімер Іваноў запэўніў раённую камісію, што сябры ініцыятывы ў сваёй дзейнасьці не перасьледаюць нейкіх экстрэмісцкіх, палітычных ці каньюктурных мэтаў, а кіруюцца выключна пачуцьцём грамадзянскай адказнасьці ў справе аднаўленьня гістарычнай праўды і справядлівасьці. Зьвярнуў ён увагу і на такую акалічнасьць: дакумэнтальнага падцьверджаньня таго, што ў лесе на поўнач ад в. Хайсы знойдзеныя парэшткі ахвяраў сталінскага рэжыму, адшукаць немагчыма. І сябры камісіі ўжо цяпер мусяць гэта разумець. А справа ў тым, што ў сістэме НКВД існаваў адмысловы загад, які забараняў дакумэнтальнае фіксаваньне месцаў пахаваньняў. У дадзеных варунках ім трэба будзе кіравацца ўскоснымі сьведчаньнямі. У першую чаргу гэта ўспаміны мясцовых жыхароў, якія ў перадваенны час хаця і былі дзецьмі, але ж з уласных назіраньняў ці бацькоўскіх расповедаў ведаюць пра месцы масавых растрэлаў рэпрэсаваных. Трэба разумець і той факт, што акрамя паднятых пошукавым батальёнам парэштак ёсьць яшчэ і не кранутыя пахаваньні. Менавіта гэтыя некранутыя пахаваньні, калі эксгумацыю праводзіць прафэсійна, і мусяць стаць наўпроставым доказам пры вызначэньні часавай прыналежнасьці знойдзеных там парэштак.



Падсумоўваючы, Ксенія Карабач заявіла, што пачула заўвагі, выказаныя грамадзкімі актывістамі. Разам з тым яна падкрэсьліла, што сябры камісіі, якія зьяўляюцца прадстаўнікамі выканаўчай улады, абавязаны прымаць сваё рашэньне сыходзячы толькі з неабвержных доказаў. Старшыня камісіі паабяцала, што дасьць супрацоўнікам раённага музэю даручэньне задукамэнтаваць успаміны мясцовых жыхароў пра незарэгістраваныя пахаваньні ў лясным масіве. Усё гэта добра, але ўзьнікае пытаньне: «Чаму гэта не было зроблена раней?» Справа ў тым, што ўсе сьведкі – людзі сталага веку, многія хворыя, а адзін зь іх нядаўна сканаў. Трэба сьпяшацца.

Нягледзячы на тое, што, здавалася б, сустрэча праходзіла ў канструктыўным рэчышчы, Ксенія Карабач выказала некалькі незразумелых прэтэнзій ў бок сяброў ініцыятывы. Маўляў, нягледзячы на тое, што пад зваротам стаіць сорак подпісаў, на другую сустрэчу прыяжджае адзін і той жа склад актывістаў. Другой прэтэнзіяй, якая агучвалася ёй ці ня тры разы, была заўвага наконт адсутнасьці ў складзе ініцыятывы наўпроставых нашчадкаў ахвяраў, забітых у Вераб'ёвым лесе. Якім чынам наяўнасьць грамадзянаў, што патэнцыйна маглі б зьяўляцца роднымі растраляных у гады сталінізму, магла б паўплываць на дзейнасьць ініцыятывы, яна ніяк не патлумачыла. У адказ прысутныя на сустрэчы актывісты з гэтай нагоды ня раз падкрэсьлівалі: іхная справа мае найперш важнае грамадзкае значэньне, хаця любыя зацікаўленыя грамадзяне, у тым ліку і сваякі рэпрэсаваных, могуць свабодна далучыцца да ініцыятывы «Хайсы» і стаць яе сябрамі.

**Якаў Дрозд**

УЛАДА І НАРОД

# НЕЗАДАВОЛЕНАСЦЬ ПРАЦАЙ СА ЗВАРОТАМІ ГРАМАДЗЯН

**Пра гэта кіраўнік вобласьці Мікалай Шарстнёў заявіў 14 траўня па выніках наўпроставай лініі з жыхарамі рэгіёну, каментуючы працу мясцовых органаў улады.**

Старшыня аблвыканкаму падкрэсьліў, што зь некалькіх дзясяткаў пытаньняў, што прагучалі, толькі некалькі – сапраўды сур'ёзныя, усе астатнія выкліканыя фармалізмам мясцовых уладаў.

«Спэцыялісты на месцах не працуюць з грамадзянамі, ня могуць уцямна растлумачыць заяўнікам, што рабіць, каб вырашыць праблему, альбо абгрунтавана патлумачыць, чаму пытаньне ня можа быць вырашанае. Гэта і выклікае незадаволенасьць і агрэсію ў заяўнікаў, якія тэлефануюць у аблвыканкам. Грамадзяне незадаволеныя тым, што не атрымліваюць адказаў на месцах. І гэтая праблема праходзіць чырвонай ніткай праз нашы наўпроставыя лініі», – сказаў Мікалай Шарстнёў. Ён запатрабаваў, каб старшыні райвыканкамаў і мэры гарадоў зрабілі больш жорсткім патрабаваньне са спэцыялістаў, якія працуюць са зваротамі грамадзян. Асабліва гэта тычыцца сфэры ЖКГ, якая застаецца адной з самых праблемных.

Не засталася ў баку гэтая праблема і падчас апошняй наўпроставай лініі. Жыхары Віцебску скардзіліся на тое, што ў склепе шматкватэрнага дому стаіць вада, у адным з населеных пунктаў Віцебскага раёну прарвала вадаправод і вадаўжотыдзень разьліваецца па домаўладаньні, а вось у Чашніцкім раёне праблема супрацьлеглая – у адным з населеных пунктаў перабоі з вадой. Грамадзяне скардзіліся на тое, што самі прыбіраюць у пад'ездах, а ў жыроўках ім працягваюць выстаўляць рахунак за прыборку, казалі пра няспраўную вэнтыляцыю.

Абмяркоўваючы праблемы ЖКГ, губэрнатар даў даручэньне падрыхтаваць сьпіс самых праблемных дамоў у Віцебску (тых, жыхары якіх часта зьвяртаюцца на простыя лініі) з тым, каб на наступным тыдні асабіста пабывацца на аб'ектах.

У цэлым падчас наўпроставай тэлефоннай лініі са старшынём аблвыканкаму было прынята каля 30 тэлефанаваньняў. Жыхары Віцебску казалі пра праблемы з працаўладкаваньнем, прасілі палепшыць транспартныя зносіны з новым мікрараёнам Мэдцэнтар, прасілі адвесьці іншыя ўчасткі пад індывідуальнае будаўніцтва (над атрыманымі праходзіць ЛЭП, якую зьбіраліся пераносіць, але так гэтага і не зрабілі), цікавіліся тэрмінамі завяршэньня будаўніцтва паліклінікі і ўмовамі вылучэньня пуцёвак у аздараўленчыя лягеры для дзяцей-сірот, зьвярталіся па садзейнічаньне ў атрыманьні жытла ў інтэрнаце.

Акрамя жыхароў абласнога цэнтру на наўпроставую лінію датэлефанаваліся грамадзяне з Наваполацку, Віцебскага, Чашніцкага, Глыбоцкага, Докшыцкага і Мёрскага раёнаў. Заяўнікі скардзіліся на дрэнныя дарогі, расказвалі пра праблемы зь зямельнымі ўчасткамі, узьнімаліся пытаньні прыватызацыі і будаўніцтва жытла, размова ішла пра павышэньне якасьці гандлёвага абслугоўваньня сельскіх населеных пунктаў. Востра прагучала праблема пасёлку Сураж Віцебскага раёну, які падзелены Дзьвіной на дзьве часткі. Моста тут няма, паром яшчэ не працуе – і гэта цягне вялікія невыгоды для жыхароў, а таксама спрычыняецца да вялізных транспартных выдаткаў для сельгаспрадпрыемстваў, якія апрацоўваюць палі на двух берагох.

**belta.by**

ЗДАРЭННІ

# В РУБЕ ЗАДЕРЖАЛИ РЕЦИДИВИСТА

**14 апреля в городском поселке Руба около 21.00 рабочие местного предприятия "Доломит" стали свидетелями ограбления.**

Рабочие предприятия "Доломит" стали свидетелями ограбления - они увидели, как парень вырвал из рук женщины дамскую сумку. Ограбление произошло в тот момент, когда женщина вошла в арку одного из дворов. К ней подбежал мужчина и вырвал из рук сумочку. После чего поспешил скрыться.

Свидетели не растерялись и бросились за преступником. Обнаружив погоню и услышав крики "стой" грабитель бросил сумку, но убежать от бдительных работников "Доломита" так и не смог. Его задержали и передали прибывшим по вызову сотрудникам милиции. Грабителем оказался мужчина 1980 года рождения ранее неоднократно судимый.

**www.gorod212**

МІГРАЦЫЯ

# ПОТОК МИГРАНТОВ СНИЗИЛСЯ

**Поток вынужденных мигрантов в Витебскую область в этом году снизился более чем в три раза, сообщила корреспонденту БЕЛТА начальник управления по гражданству и миграции УВД облисполкома Татьяна Ромашова.**

"В этом году ходатайства на получение статуса беженца подали 27 человек. Это не сравнить с теми объемами, которые были в 2014 и 2015 годах, когда приезжало особенно много граждан Украины. В прошлом году множество сирийцев пытались использовать Беларусь как транзитный пункт. Сейчас поток беженцев уменьшился, при этом большую часть все еще составляют украинцы. Есть также граждане Сирии, Афганистана, Египта", - отметила Татьяна Ромашова. В прошлом году в органы по гражданству и миграции региона было подано 311 ходатайств, статус дополнительной защиты получили 92 человека. На сегодня в области числится 38 беженцев. Кто-то выехал за пределы страны. А некоторые уже приобрели гражданство, устроились на работу в различных сферах. В эти дни Беларусь посещает делегация госорганов стран - членов ОДКБ. Это плановый визит постоянно действующей рабочей группы по проблемам лиц, ищущих убежище, при Координационном совете руководителей компетентных органов названных государств по вопросам борьбы с незаконной миграцией на 2016 год. В составе делегации представители Таджикистана, Кыргызстана, Армении, России. Гости побывали в Министерстве внутренних дел, ознакомились с действующей системой предоставления убежища в Беларуси, посетили Академию МВД. Также состоялись встречи с Государственным пограничным комитетом и Представительством УВКБ ООН в Беларуси. Сегодня рабочая группа находится с визитом в Витебске, где с 2002 года действует пункт временного поселения беженцев. Делегаты ознакомились с условиями проживания тех, чьи ходатайства находятся на рассмотрении. Узнали, с чего начинается эта работа, какая помощь оказывается вновь прибывшим в регион, какой социальный пакет и возможности интеграции в общество они получают впоследствии. Также гости провели рабочую встречу с руководством управления по гражданству и миграции УВД облисполкома. Как отметил советник управления противодействия вызовам и угрозам ОДКБ Леонид Танцоров, взаимодействие государств - членов ОДКБ и обмен опытом в работе с вынужденными и нелегальными мигрантами крайне важны для выработки общих подходов, гармонизации национальных законодательств с Конвенцией ООН о статусе беженцев 1951 года.

**belta.by**

“КІРМАШ ПРАЕКТАЎ”

# У ВІЦЕБСКУ ХОЧУЦЬ ПРАВЕСЦІ ПАРАД ВЫШЫВАНАК

**Ад парада вышыванак і фестывалю нацыянальнай кухні да свята ветра і 1000 вершаў пра родны горад: 26 траўня ў Музычнай гасцёўні Віцебска прайшла прэзентацыя “Кірмаша праектаў”, які мусіў акумуляваць ідэі святкавання сёлетняга Дня горада.**

Гарвыканкам на сустрэчы прадстаўляла загадчык аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Наталля Шыянок. Яна сказала, што задача падобных мерапрыемстваў не ў тым, каб задаволіць чыесьці амбіцыі, а каб падарыць людзям радасць, каб ім было весялей жыць.

Датычных святкавання Дня горада праектаў было прадстаўлена шэсць, яшчэ адзін, сёмы, да ўрачыстасцяў не адносіцца, а звязаны са спробай Віцебска трапіць у кнігу рэкордаў Гінэса.

Адразу два праекты былі прысвечаныя танцам. Так, творчае аб’яднанне “Блукаючыя агеньчыкі”, якое прадстаўлялі сёстры Цярэнцьевы, прапанавалі спалучыць народныя танцы на вуліцы з фаершоў. А школа танцаў “Dancing Fish”, у сваю чаргу, хоча правесці танцавальны оўпэн эйр для тых, хто цікавіцца сацыяльнымі танцамі.

Ад віцебскага фатографа Аляксея Карасёва паступіла прапанова правесці гарадскі фотазлёт. Пад час гэтага мерапрыемства, па задумцы арганізатараў, фатографы, мадэлі і візажысты горада будуць мець магчымасць сустрэцца, абмяняцца досведам, навучыцца супольнай працы. Вынікі сустрэчы можна прадставіць на “фотасушцы”.

Прапанова правесці ў Дзень горада фестываль нацыянальнай кухні прагучала ад Андрэя Лапіна. Спадар Лапін прапануе паспрабаваць высветліць, якія стравы былі любімымі ў вядомых віцяблян — Юдэля Пэна, Марка Шагала, Лазара Лагіна — і прадставіць іх на кулінарным фэсце. Праўда, як прызнаюцца самі арганізатары, да Дня горада яны могуць не паспець падрыхтаваць такі маштабны фестываль.

Анастасія Балотнікава ад культурнай супольнасці “VITEBSK4ME” нагадала пра “Свята ветру”. У 2006 годзе гэты фестываль паветраных змеяў на Касцюковай гары ля Альгова быў разагнаны міліцыяй і з тых часоў заняпаў, але быў адроджаны ў мінулым годзе. Акрамя ўласна конкурсу паветраных змеяў сёлета на святе плануецца правесці “фры маркет”, канцэрт, кінапаказ кароткаметражных фільмаў, а для дзяцей арганізаваць спецыяльную гульнявую зону.

Ганна Хлопцава прапанавала адразу 3 ў 1: фестываль “Таямніцы майстэрства” для майстроў hand-made, свята вышыванкі з парадам-дэфілепа горадзе і фэст вегатарыянскай ежы. Да парада вышыванак арганізатары плануюць далучыць усіх жадаючых, якія не толькі самі робяць такія строі, але, напрыклад, маюць застаўшыяся ў спадчыну ад бабуль. Нагадаем, што ў Віцебску ўжо праводзіўся парад дзяўчат у вясельных сукенках, так што гэты досвед можна будзе выкарыстаць і для марша вышыванак.

Апошняя прэзентацыя — праект “1000 вершаў пра Віцебск” прадстаўленая Сяргеем Пятровым — не адносіцца да дня горада. Арганізатары плануюць правесці 16 ліпеня вершаваны марафон, калі цэлы дзень запар будуць чытацца вершы пра наш горад. Такім чынам гэтая падзея павінна трапіць ў кнігу рэкордаў Гінэса, а зараз патрабуецца сабраць неабходную колькасць вершаў.

**Сяржук Серабро “ННВ”**

## АБ’ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты “Дзвінскі Ўзгорак“ паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты “Дзвінскі Ўзгорак“.***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.***




АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ДВА СУСВЕТЫ — ДВА ЛЁСЫ

**Мне давялося зноў перасекчы Атлантычны акіян, бо нарадзіўся чарговы амерыканскі ўнук. Пяць гадоў таму я ўжо меў магчымасць на асабістым досведзе пераканацца, што значыць жыць ва ўмовах капіталізму.**

Два сусветы — два лёсы. І з гэтым не паспрачаешся. «Нарадзілася дзіця, — тут я цытую фрагмент з інаўгурацыйнай прамовы адзінага палітыка (АП), — да трох гадоў адзін з бацькоў мае магчымасць сядзець з малым, выхоўваць яго, атрымліваць бясплатныя лекі».

Гэта ў нас. А ў Амерыцы дародавага адпачынку няма наогул, а пасля родаў — шэсць тыдняў. Круціся як хочаш. Вось і лётае дзед-пенсіянер праз акіян «за кошт запрашаючага боку».

Натуральна, пасля вяртання сябры і знаёмыя задаюць стандартнае пытанне: «Ну як там Амерыка?» Але адкуль я ведаю, як там яна? Я тры месяцы прасядзеў у чатырох сценах. Далёка не кожны тыдзень мяне вывозілі ў бліжэйшы гандлёвы цэнтр, і раз на месяц мы ездзілі «праветрыцца» ў адзін з бліжэйшых гарадоў. З такім досведам наскрэсці матэрыял на «Азбуку паліталогіі» не так проста. Аднак я паспрабую.

**4 ахоўнікі замест 150**

Адна з вандровак была звязана з паездкай у Вашынгтон на Нацыянальны фестываль квітнення сакуры (National Cherry Blossom Festival). У цэнтры амерыканскай сталіцы высаджаны тры тысячы японскіх вішань. Дрэвам больш за сто гадоў. У 1912 годзе іх падарыў гораду мэр Токіа.

Выдатнае надвор'е. Тысячы людзей гулялі пад квітнеючымі дрэвамі. Шпіль манумента Вашынгтона на фоне Белага дома і... ніводнага паліцэйскага, ніводнага! І гэта за пяць гадзін пікніка! А за тры месяцы «жыўцом» я бачыў паліцыянтаў толькі адзін раз. У кафэ гандлёвага цэнтра яны зайшлі папіць кавы.

Яшчэ адна дэталь: адсутнасць платоў перад індывідуальнымі дамамі. Задні двор — не лічым. Але страх перад рабаўнікамі тут ні пры чым. У раёне, у якім я жыў, усе задні двары выходзілі ў лес, а там поўна аленяў і іншай жыўнасці. Акрамя таго многія домаўладальнікі трымаюць сабак. Наяўнасць плоту ў такіх выпадках абавязковая.

Але ад прыватнага прыкладу падымуся да абагульнення, запазычанага ў інтэрнэце з артыкула «Чаму трактарны завод застанецца ў Канадзе»: «У мэтах аховы і прадухілення парушэнняў правапарадку на тэрыторыі завода ў Растове-на-Доне прадпрыемства вымушана ўтрымліваць вялікі штат аховы (каля 150 чалавек). Выдаткі ўключаюць у сябе заработную плату, уніформу, страхоўку, утрыманне службовых памяшканняў, звязаныя падаткі. Штат аховы на заводзе ў Канадзе складае 4 чалавекі, а іх функцыі абмяжоўваюцца кантролем прапускной сістэмы і, у выпадку неабходнасці, камунікацыямі з органамі правапарадку».

Два сусветы — два лёсы. І гэта толькі адзін прыклад з артыкула. Мне, уладальніку запісу «вартаўнік» у працоўнай кніжцы, праблема з ахоўнікамі асабліва блізкі. Як-ніяк год ахоўваў будоўлю побач з плошчай Бангалор у Мінску. Кругласутачная ахова. Высокі плот. Два сабакі. Без гэтай тройцы ўсё, што можна вынесці і вывезці, было б вынесена і вывезена. І гэтай шаноўнай справай заняліся б не прафесійныя рабаўнікі, а жыхары суседніх шматпавярховікаў.

Здаецца, усё насельніцтва краіны можна падзяліць на дзве групы: на тых, хто крадзе, і на тых, хто не крадзе. Да другой групы належаць, галоўным чынам, грамадзяне, папросту пазбаўленыя ў сілу розных абставін магчымасці красці.

І не трэба вінаваціць мяне ў імкненні ўзвесці паклёп на беларускі народ. Свежы прыклад. Камітэт дзяржкантролю завяршыў праверку сістэмы ЖКГ. Пра гэта ў эфіры тэлеканала АНТ заявіў старшыня камітэта Леанід Анфімаў: «На эмоцыях я б мог цяпер арыштаваць палову складу Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі...»




Работнікі міністэрства. Сур'ёзныя сталыя людзі. А па кожнаму другому турма плача! Што ж тады казаць пра жыхароў звычайных шматпавярховікаў...

**Чаго не хапае?**

У канцы красавіка ў садах Дзюпона расквітнелі цюльпаны. Час, які я выдаткаваў на іх сузіранне, быў узнагароджаны магчымасцю ўсвядоміць яшчэ адно з азбукавых адрозненняў паміж двума сусветамі. Увявіце невялікі фантан ля ўваходу ў аранжарэю. Падбягаюць два хлопчыкі і дзяўчынка гадоў 4–5. Кладуцца на мармуровую падлогу і пачынаюць далонькамі стукаць па вадзе. Пырскі ляцяць ва ўсе бакі. Нагуляўшыся, дзеці ўстаюць. На дзяўчынцы ружовыя нагавічкі. Яны, натуральна, мокрыя і брудныя. Як на гэта рэагуе мама? НІЯК!

Побач з маім домам у Мінску — альтанка, каля якой у добрае надвор'е тусуюцца маладыя жанчыны з малымі. Думаю, чытачам не трэба тлумачыць, якія чуюцца крыкі, калі малое з разбегу падае на асфальт. Як сказаў бы ў такім выпадку АП, «гвалтам крычаць».

А ў логаве імперыялізму, дзе чалавек чалавеку воўк, такое немагчыма ў прынцыпе. Вось на травяністым схіле куляюцца дзеці. На іх маечкі і джынсы. Але падышла дзяўчынка, разадзетая як Мальвіна, і далучылася да кампаніі. Бацькі сядзяць побач і пра штосьці спакойна размаўляюць. Карункавая сукенка — не падстава, каб адмовіць дзіцяці ў задавальненні пакатацца па траве.

Два сусветы — два лёсы, дзве стратэгіі выжывання. Адна абапіраецца пераважна на заах-вочванне. Іншая бярэ за аснову рэпрэсіі. «Гісторыя паказвае нам, — тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка, — што тыя краіны, якія робяць стаўку на заахвочванне, развіваюцца дынамічна. А тыя грамадствы, што трымаюцца за рэпрэсіі, прайграюць».

Да якога сусвету належыць Беларусь, здаецца, вызначыць нескладана. Чытачам жа, у якіх паўстануць з гэтым цяжкасці, рэкамендую звярнуцца да выступленняў АП. Адкрываю ў сваёй кампутарнай бібліятэцы файл «Парадак і дысцыпліна»: «Я не разумею, чаго не хапае? Угнаенні ёсць, насенне ёсць. Усё ёсць. Вёска ўжо кажа, што тэхнікі не трэба больш. Але патрэбны парадак (выдзелена. — С.Н.)».

Парадак патрэбны, таму што яго няма. І за два дзесяцігоддзі актыўнага будаўніцтва беларускай мадэлі дамагчыся яго так і не атрымалася. Тут варта прыгадаць знакамітую характарыстыку айчыннай рэальнасці з «Аповесці мінулых гадоў»: «Земля наша велика и обильна, а порядка в ней нет».

Аднак гэта скажоны варыянт . У першакрыніцы — Іпацьеўскім летапісе — гаварылася: «…земля наша велика и обильна, а наряда в ней нет». Слова «наряд» з'яўляецца аднакарэнным са састарэлым словам «нарядчик» і захавалася ў сучаснай рускай мове ў выразах накшталт «наряд на работу». Азначала ж яно «распараджэнне», «кіраўніцтва». Акрамя таго, існуюць ірознычытанні гэтай фразы ў розных летапісах. Так, у Цвярскім летапісе гэтая фраза гучыць наступным чынам: «Вся земля наша добра есть и велика изобильна всем а нарядникъ в ней несть». Тут ужо гаворка ідзе пра «нарядника» — пра кіраўніка.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**

БУДУЧЫНЯ

# «НАС ЖДУТ ВРЕМЕНА, ПОДОБНЫЕ КРИЗИСУ ПОСЛЕ РАЗВАЛА СОВЕТСКОГО СОЮЗА»

**В белорусском бюджете практически исчерпаны возможности для повышения зарплат, пенсий, пособий и стипендий, заявляют в Министерстве финансов. Экономист Ярослав Романчук полагает, что нас ждут времена, подобные кризису после развала Советского союза.**

**Резервы исчерпаны**

В Беларуси практически исчерпаны резервы для наращивания социальных обязательств. Об этом заявил первый заместитель министра финансов Максим Ермолович в интервью, которое опубликовано в майском номере журнала «Финансы, учет, аудит», издаваемого Минфином.

«Учитывая, что Беларусь остается социально ориентированным государством, большая часть расходов бюджета традиционно направляется на финансирование соответствующих статей, связанных с поддержкой населения. В данном случае корректно говорить не только об образовании, здравоохранении, культуре, спорте, но и транспортной отрасли, ЖКХ, сельском хозяйстве. Таким образом, в республике делается очень многое для сохранения на приемлемом уровне цен на товары и услуги наших граждан», — сказал Максим Ермолович.

При этом, подчеркнул он, данная работа проводится за счет бюджета. «В подобной системе нет ничего удивительного. Иных источников финансирования вышеназванных направлений еще не придумали ни в одной стране мира», — сказал первый замминистра финансов.

Однако, отметил Ермолович, свои желания нужно соизмерять с имеющимися возможностями: «К сожалению, в Беларуси для наращивания социальных обязательств резервы практически исчерпаны. Приступать в ближайшее время к реализации новых амбициозных задач вряд ли имеем смысл, так как они не подкреплены реальным финансированием».

Среди прочего, подчеркнул он, ограничения коснутся темпов повышения заработных плат, а также увеличения пенсий, пособий, стипендий. «Существенно наращивать такие затраты проблематично», — сказал первый замминистра финансов.

**Тяжелые времена**

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук считает, что власти идут именно на сокращение социальных расходов, потому что лобби крупного бизнеса в сфере промышленности и сельского хозяйства сильнее, чем давление населения.

«Власти уступают нажиму консолидированных и достаточно активных лоббистов, потому что они представляют информацию так, что от них властям будет больше проблем, чем от затягивания поясов населением. И сельское хозяйство, и промышленность продолжают получать непомерную поддержку, грубо нарушая публичные требования Александра Лукашенко не давать деньги убыточным и бесперспективным проектам. Население же, поскольку не имеет своего прямого представительства в органах государственного управления, будет нести увеличенное бремя нагрузки», — отмечает экономист.

В будущем, по его мнению, населению стоит готовиться к максимальной зарплате в 200 долларов и пенсии меньше 100 долларов. При этом цены и безработица будут расти, а курс рубля в условиях валютного дефицита останется нестабильным.

«Беларусь, по сути дела, вступает в полосу развала Советского союза 2.0. Мы впервые столкнулись с квадро-кризисом: структурным, системным, конъюнктурным и управленческим. Вдальнейшем он будет только усугубляться», — полагает Ярослав Романчук.

*(сокращено)*

**Александр Ярошевич**
**БЕЛАПАН**

ВЫЗВАЛЕННЕ

# «РОССИЯНАМ НЕЧЕГО БОЯТЬСЯ, С КОЛЕН НАДО ВСТАВАТЬ»

**Президент Украины Петр Порошенко вручил летчице Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу».**

**Петр Порошенко в твиттере: «Наша Надя уже на украинской земле»**

Об этом в своем твиттере написал президент Украины Петр Порошенко: «Наша Надя уже на украинской земле. Рад поздравить ее с возвращением! Поздравляю украинцев и весь мир с нашей Победой! Слава Богу - в этот раз все удалось. Продолжаем борьбу за освобождение всех украинских заложников. Благодарю всех, кто помогал мне приближать сегодняшнюю победу. Долгие 709 дней плена наконец закончились».

Самолет с россиянами Александром Александровым и Евгением Ерофеевым приземлился во Внуково. Пресс-секретарь российского президента Дмитрий Песков подтвердил: самолет ГТК «Россия» доставил их в Москву.

**«Назло им я выжила»**

Прокричала Надежда в аэропорту журналистам.

— Я готова умереть каждую секунду за то, чтобы мы могли жить так, как мы хотим. Мы должны бороться за то, чтобы все остальные тоже оказались на свободе! Спасибо всем, и даже тем, кто желал мне зла - благодаря их словам я выжила! - сказала Савченко, сообщает Би-би-си.

В своем выступлении в аэропорту она также попросила прощения у тех, кто погиб в украинской АТО или попал в плен:

— Герои Украины не должны умирать, потому что очень выгодно, когда герои мертвы.

После эмоционального выступления, продолжавшегося несколько минут, она сказала журналистам: «Уважайте личное пространство человека. Я отвыкла от свободы, потому прошу прощения за резкость».

— Это реально приехал сильный лидер домой, - заявила Юлия Тимошенко журналистам после того, как пообщалась с Савченко.

По словам главы партии, Савченко «готова немедленно, уже сегодня, начать работать на Украину».

- Она мне задала первый вопрос: «когда приступать к работе»? Она сказала: «Мне уже сейчас ехать на работу?». Она спросила, где ей завтра быть, куда завтра приходить и приступать к работе, - добавила лидер фракции.

Тимошенко также подчеркнула, что готова всячески помогать Савченко в полной мере реализовать свой «уникальный потенциал и уникальную моральность и способность служить Украине».

Тем временем журналисты «Украинских новостей» обратили внимание на то, что Савченко отказалась принять букет цветов от Тимошенко.

— Лучше отдайте цветы моей маме, - объяснила украинская военнослужащая, добавив, что цветы ей не нужны.

Президент Украины Петр Порошенко заявил о намерении вернуть Донбасс и Крым.

— Как мы вернули Надежду, так вернем Донбасс и Крым, — заявил Порошенко.

**Порошенко вручил Савченко орден «Золотая Звезда»**

Как сообщает «Газета.Ru», Порошенко вручил Надежде Савченко орден «Золотая Звезда» — знак отличия Героя Украины — «за проявленное мужество и жертвенное служение украинскому народу». Матери Савченко он вручил огромный букет.

В свою очередь Савченко пообещала сделать все, чтобы минские соглашения выполнялись.

— Украина имеет право быть, несмотря на чью-то больную душу или голову, — заявила она на пресс-конференции.

— Я вам хочу сказать… в первую очередь передать привет россиянам и сказать, что нечего бояться, с колен надо вставать. Я понимаю, что не та страна, в которой с колен встать легко, но если они хотят так же жить в согласии, как и мы, то им нужно вставать с колен, а нам надо не дать им прийти сюда, - заявила Савченко во время совместной пресс-конференции с президентом Украины Петром Порошенко.

Она отметила, что будет работать, чтобы каждый пленный украинец вернулся живой, и чтобы Украина была сильной, а народ не был забыт, сообщает "УНИАН".

СУДОВАЯ СПРАВА

# “НЕ ПРЕДСТАВЛЯЮ, ЗАЧЕМ ОБЕЗГЛАВЛИВАЛИ НАШЕ ПРЕДПРИЯТИЕ”

**23 мая в Верховном суде продолжились прения по делу сенатора и гендиректора Витебской бройлерной птицефабрики Анны Шарейко и еще шести обвиняемых. Стороны обвинения и защиты обменялись репликами, а обвиняемые выступили с последним словом.**

Гособвинитель Анатолий Метельский отметил, что из обвинения исключили только совершение преступления в группе и материальный ущерб, остальное обвинение поддержано в полном объеме — создание Норкусом цепочек подконтрольных ему фирм для получения дохода, личная заинтересованность Норкуса и Шарейко в результатах конкурсов и т.д. Обвинение также обратило внимание на свидетельства юристов Протасовицкого и Амельчени, которые поясняли, где были нарушения членов комиссии при проведении переговоров.

Адвокаты, по мнению прокурора, пытались опорочить показания юристов, называя Протасовицкого теоретиком. «Эти доводы считаю несостоятельными, он высококвалифицированный юрист», — заявил гособвинитель.

Адвокат Шарейко Татьяна Сычева сказала о том, что реплика обвинения повергает защиту в шок. Речь о словах, что прокурор полностью подтверждает обвинение, но отказывается от «группы» и особо крупного ущерба. Это, по мнению защитника, создает состав преступления, не предусмотренного законом. Переквалифицируя статью на часть 2, а не 3 (группа по предварительному сговору), надо понимать, что каждое обвинение должно выстраиваться самостоятельно — ведь группы нет. «Исходя из существующего обвинения, нельзя понять, кто и в чем обвиняется, пока вменяется все и всем», — отметила адвокат.

При этом абсолютно непонятно, что такое общественный интерес, как его подорвала Шарейко.

Комментируя заявления юриста Протасовицкого, Татьяна Сычева отметила, что он «такой же адвокат, как и мы, нас здесь 7 человек, и у некоторых тоже есть степень».

«Он ничем не лучше других юристов. Мнения юристов не имеют никакого отношения к должностным действиям обвиняемых. Если нет ущерба, а ущерба фабрика не понесла, значит существенного вреда от ее деятельности быть не может», — считает защита.

Защитник Норкуса Ирина Карасевич обратила внимание на то, что адвокату даже не дали ознакомиться с письменным носителем нового обвинения: «Люди не знают, в чем обвиняются. Прошу оправдать, только такой приговор может восстановить попранную справедливость».

Адвокат Михаила Разживина Борис Лесковский обратил внимание, что из всех контрактов с «Русском-Р» обвиняемым вменяется в вину 5, а контрактов более 40. «То есть это не может считаться продолжаемым преступлением. А тогда обвинение должно конкретизировать ущерб и вред по каждому конкретному эпизоду», — отметил защитник.

Затем в суде выступили обвиняемые с последним словом.

Анна Шарейко подчеркнула, что работала на птицефабрике со студенческой скамьи, всегда трудилась добросовестно и работала с позиции государственного человека: «Никакие личные отношения не могли повлиять на мое отношение к фабрике».

Она отметила, что неоспорим факт того, что при ней фабрика стала одним из самых успешных предприятий страны. «Предприятие развивалось, наращивало объемы, выполняло доведенные показатели, никогда не имело долгов перед бюджетом, по зарплате и за энергоносители», — подчеркнула бывший руководитель фабрики.

Шарейко отметила, что не хочет носить пятно преступника, которое «не заслужила никоим образом». Она также подчеркнула, что хочет понять, чем руководствовались представители правоохранительных органов, обезглавливая крупное многопрофильное предприятие в разгар реализации стратегических для предприятий и отрасли проектов, в том числе речь идет о строительстве мощного комбикормового завода, который в данный момент находится в стадии пуско-наладки, хотя ввести в строй его планировали еще в конце 2014 года.

Более 120 млрд рублей фабрикой потеряно, констатировала гендиректор фабрики. Потребовалось время для того, чтобы новому руководству вникнуть в проект, и банки стали иначе относиться к некогда благополучному заемщику. Потери фабрики за прошлый год Шарейко оценила в 110 млрд рублей. Потери фабрики за период сидения в СИЗО ключевых специалистов, по мнению Шарейко, достигают 230 млрд рублей.

Заместитель Анны Шарейко Надежда Семченкова не признала себя полностью виновной и напомнила, что уже изложила свою позицию в двух обращениях к президенту.

Она рассказала, что в 2013 году на фабрику приняли на работу сотрудника правоохранительных органов под прикрытием, который позже приходил в СИЗО, утверждая, что коллектив обвиняемых не поддерживает. Этот сотрудник, считает Семченкова, подрывал работу предприятия, распространял ложные слухи об администрации предприятия, но не добился того, чтобы коллектив поменял мнение о своих руководителях. «Анонимка, положенная в основу обвинения, это письмо, написанное Министерством внутренних дел, что потребовалось для заведения уголовного дела», — уверена обвиняемая.

Шесть обвиняемых попросили их оправдать. Седьмой, признавший свою вину, попросил вынести «объективный приговор».

Суд удалился в совещательную комнату. Приговор будет вынесен в 10 часов 10 июня.

tut.by

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.05.2016 у 16.30
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.